# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 42 (1286) ГОД XXV БЕЛАСТОК 19 КАСТРЫЧНІКА 1980 г. ЦАНА 2 ЗЛ.



БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-80

Беластоцкія „Каласкі", III месца ў катэгорыі сучаснай песні.

Фота М. Шаховіча.

Яшчэ ўсе мы пад уражаннем падзей, якія адбыліся ў апошніх месяцах у нашай краіне, пад уражаннем стварэння новых грамадскіх структур і ломкі поглядаў на шматлікія пытанні. Усё гэта хвалюе. І таму нельга гэтага не заўважыць, прамінуць, не ўвесці ў павестку дня кожнага форума, нельга не гаварыць аб патрэбе разважнасці, грамадзянскай сталасці, аб патрэбе саліднай і высокапрадукцыйнай працы, аб патрэбе даверу да партыі, якая прыступіла да адновы стылю і зместу сваёй дзейнасці і дзейнасці паасобных органаў, да ліквідацыі скрыўленняў палітыкі некаторымі асобамі. Аднаўленне ў працы і дзейнасці ўсіх арганізацый, усіх ведамстваў неабходнае.

Неабходна і нам, у Беларускім таварыстве, справядліва глянуць на нашую дзейнасць, мінулую і будучую, на недахопы, на ўсе слабыя бакі на сваім панадворку. Не павінна здарацца так, каб прынятыя Галоўным праўленнем ці яго Прэзідыумам пастановы не выконваліся, змяняліся або адменьваліся. Змяніць або адклікаць іх можа толькі ГП, толькі Прэзідыум, толькі той наш орган, які калектыўна намеціў іх. Інакш быць не можа, калі мы хочам працаваць добрасумленна, працаваць самаахвярна, бо ў большасці выпадкаў на грамадскіх пачатках. Трэба глянуць праўдзе ў вочы і сказаць, што шмат ёсць у нас




дзеяння нясмелага, нерашучага, а часам нават бездапаможнага. І ў нас у гэтай галіне патрэбная аднова.

Кіраўнікамі партыі і ўрада прызнана цяпер, што былі дапушчаны памылкі ў многіх галінах як гаспадарчых, так і грамадска-палітычных, што ў свой час наступіла пэўнае скрыўленне ленінскіх прынцыпаў у агульнадзяржаўным кіраванні краінай, што жнівеньскі пратэст рабочых скіраваны быў не супраць сацыялізму, а супраць яго скрыўленняў, не супраць народнай улады, а супраць спосабаў кіравання, у тым ліку супраць многіх скрыўленняў інтэнцый партыі паасобнымі асобамі.

Дапушчаны былі памылкі і ў нацыянальнай палітыцы. Тым, што беларусы жывуць на Беласточчыне і маюць сваю спецыфіку, маюць шмат культурна-асветных праблемаў, ніхто па сапраўдному не цікавіцца, а ўлады замала гэта заўважаюць. Беларуская тэматыка сталася стыдлівай. Не ставіцца яна на сесіях гмінных рад і гмінных камітэтаў партыі. А гэта якраз таму, што не ставіцца, а памінаецца яна і на розных пасяджэннях ваяводскага значэння.

Вось аб гэтых і вышэй спомненых справах гаварылася на пленарным пасяджэнні Галоўнага праўлення БГКТ, якое адбылося 28 верасня. На ім асабліва падкрэслівалася, што калі гаворыцца аб аднаўленні сістэмы кіравання ва

(Працяг на стар. 4)

## Гутарка дзядзькі Максіма

Падвечар, калі мая Палашка вярнулася з вясковай крамы, дзе і так амаль нічога не змагла купіць, яна хутка памылася і пачала апранацца ў святочную сукенку. Нават губы памадкай падмалявала, што здараецца ёй толькі два разы ў год: на Вялікдзень і Каляды.

Назіраў я моўчкі за яе паводзінамі і ўрэшце не вытрымаў.

— Здурэла? — усклікнуў я. — То ж капусту з агарода трэба звозіць, свінні квічаць някормленыя, каровы непадоеныя, а ты што сабе прыдумала...

— Каровы ты сам падоіш, — кажа мая паважаная жонка. — Капуста з агарода не ўцячэ, а свінні крыху пацерпяць. Я мушу ісці, бо наш гурток гас-

## СУСТРЭЧА

падынь наладжвае сёння сустрэчу з вядомым паэтам...

Тут яна назвала нейкае прозвішча, якое я добра не дачуў, а запытаць другі раз ужо не паспеў, бо мая Палашка бразнула дзвярыма і паімчалася ў вясковую святліцу. Для мяне асталася ў хаце буднішняя проза жыцця. Лазіў я адзінока па панадворку, карміў жывіну, упраўляўся, а паэзія, быццам асенняя імгла, снавалася за мною і атуляла з усіх бакоў.

Я люблю вершы, асабліва такія, якія падабаюцца Дзядзьку Квасу, у якіх не трэба дакопвацца да сэнсу, як да золата. Я люблю паэзію, асабліва такую, якая кранае блізкія майму сэрцу справы, для прыкладу, такія, як вернасць сваёй роднай мове, вернасць зямлі, на якой мы выраслі і ўласным потам яе мы арасілі. Як у гэтай песні: *„Люблю наш край, старонку гэту..."*

Люблю я такія вершы і сам часам штосьці падбяру, каб рыфмавалася і для вуха звонка гучэла, для прыкладу: *„Прэзас нашага кулка: што справа, то й лапуўка. У начальніка гміны штодзень імяніны. Без падарунку не знойдзеш ратунку".*

Закончыў я ўборку, вярнуўся ў хату, напіўся свежага, яшчэ цёплага малака, якое надаіў уласнаручна, уключыў тэлевізар і пачаў рыхтавацца да адпачынку. А мая Палашка ўсё яшчэ не вярнулася, *„Што яны,* — падумаў я, — *усяночную там сабе заклалі?"* І не вытрымаў, сам я пабег у святліцу.

Людзей сабралася няшмнога. Некалькі жанчын, пару падлёткаў, дзед Гаўрыла, якога ў нас у вёсцы чамусьці Кацюбой называюць, яшчэ адзін-два беспрацоўныя пенсіянеры, што ўласную зямлю аддалі дзяржаве і цяпер не ведаюць, што рабіць з уласным часам.

Я прысеў у куточку, крэсла заскрыпела і чалавек, які сядзеў у прэзідыуме, паглядзеў на мяне не надта прыхільна, аж па маім хрыбце мурашкі ад сораму забегалі. Я здагадаўся, што гэта і ёсць самы найважнейшы паэт, для якога мая Палашка пакінула сваіх свіней, кароў і мяне на дабавак.

Вершыкі яго, не скажу, а як жа, трапілі да майго сэрца. Асабліва два або тры ўбіліся мне ў памяць: пра бацькоўскі парог, пра нашу Беласточчыну і пра родную мову.

(Працяг на стар. 4)


Новыя вершы


### ПАЭЗІЯ

*Я ў цябе*
*Так загледжаны быў,*
*Што не бачыў дарогі*
*І збіваў часта на камянях*
*Свае босыя ногі.*

*Я ў цябе быў*
*Заслуханы так,*
*Што і на пераралах,*
*Дзе лавіны грымелі, не чуў,*
*Калі смерць аклікала.*

*Я ў цябе*
*Закаханы быў так*
*Па-вар'яцку, заўзята,*
*Што спытаць не асмеліўся нат:*
*Ці мая ты?*

### КРЫНІЧКА

*Дзень быў спякотны.*
*На небасхіле — ні воблака,*
*Ні жураўля студні,*
*Ні надзеі на кроплю расы,*
*Ні ценю надзеі.*
*Ды раптам бачу:*
*Кудысьці па схіле*
*Пабегла сцяжына мая,*
*А за ёй — валуны,*
*За імі — сасняки, бярэзнікі,*
*Ляшчэўнікі, алешнікі,*
*Лазнякі і папаратнікі...*

*Што іх там прывабіла?*
*А гэта — невялічкая крынічка,*
*І мы ўсе,*
*Стаўшы на калені,*
*Прыпалі да яе*
*Сваімі вуснамі.*

### ПЫТАННІ

*Я няспынна вандрую*
*Па свеце шырокім*
*У дажджы, снегавеі,*
*Світанні, змярканні,*
*Бо ў мяне да людзей*
*Птушак, дрэў і патокаў,*
*Да сустрэчных сузор'яў,*
*Вятроў і аблокаў,*
*Як і ў іх да мяне, —*
*Шмат пытанняў, пытанняў...*

**Максім Танк**



На роднай зямлі. З Юшкавага Груда ў Бандары. Фота Я. Целушэцкага.

# ЗАГІНУЎ ПЁТР МАШЭРАЎ

4 кастрычніка г.г. у аўтамабільнай катастрофе загінуў першы сакратар Цэнтральнага Камітэта Кампартыі Беларусі Пётр Машэраў.

Паходзіў з Віцебшчыны. Член КПСС з 1943 г. З першых дзён вайны стаў адным з арганізатараў партызанскага руху. Праявіў выдатныя арганізатарскія здольнасці, адвагу і гераізм. Быў двойчы паранены. Пасля вызвалення Беларусі — на кіруючай камсамольскай і партыйнай рабоце. Быў сакратаром Маладзечанскага абкома камсамола, першым сакратарам ЦК ЛКСМ Беларусі, першым сакратарам Брэсцкага абкома партыі. Кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС, член Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР, Герой Савецкага Саюза, Герой Сацыялістычнай Працы.

### КАЛЯНДАР

**110 гадоў назад**

22.10.1870 нар. І. Бунін, рускі пісьменнік. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1933).

**95 гадоў назад**

20.10.1885 нар. А. Бурбіс, беларускі грамадскі дзеяч, адзін з заснавальнікаў беларускага прафесійнага тэатра.

**80 гадоў назад**

21.10.1900 нар. М. Дзянісаў, беларускі савецкі спявак, народны артыст БССР.

## ЧЫТАЧ!

**Ці Вы ўжо выпісалі „Ніву“ на 1981 год? Выпісалі. Дзякуем. І сваім знаёмым за граніцу таксама? Цудоўна! Тады прыпомніце, калі ласка, суседзям, што яшчэ марудзяць, наш надзённы лозунг: толькі скнара і лянівы не выпісваюць „Нівы“!**

**А ўмовы падпіскі ў рэдакцыйнай „стопцы“.**



**Niwa**

**BIAŁORUSKI TYGODNIK SPOŁECZNO-KULTURALNY**

**ODZNACZONY ZŁOTĄ ODZNAKĄ „ZASŁUŻONY BIAŁOSTOCCZYŹNIE"**

**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

**ADRES REDAKCJI**

**Niwa**
**ul. Wesołowskiego 1**
**15-950 Białystok, skr. poczt. 149**
**tel. 2-32-41**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

Wydawca: RSW „Prasa-Książka-Ruch" Kombinat Wydawniczo-Kolportażowy w Białymstoku

Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

Ogłoszenia przyjmuje: Biuro Reklam i Ogłoszeń ul. Wesołowskiego 1, 15-950 Białystok, tel 232-41 w. 278, oraz wszystkie biura ogłoszeń RSW „Prasa-Książka-Ruch" na terenie całego kraju. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności. Prenumeratę przyjmują Oddziały RSW „Prasa-Książka-Ruch" oraz urzędy pocztowe i doręczyciele w terminach: do dnia 25 listopada na I kwartał, I półrocze i na cały rok następny; do dnia 10 poprzedzającego okres prenumeraty na pozostałe okresy roku bieżącego. Cena prenumeraty: kwartalna 26 zł, półroczna 52 zł, roczna 104 zł. Jednostki gospodarki uspołecznionej, organizacje społeczne zamawiają prenumeratę w miejscowych Oddziałach RSW „Prasa-Książka-Ruch", w miejscowościach zaś, w których nie ma Oddziałów, w urzędach pocztowych. Czytelnicy indywidualni opłacają prenumeratę wyłącznie w urzędach pocztowych i u doręczycieli. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch" Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa, konto NBP XV Oddział w Warszawie, nr 1153-201045-139-11; prenumerata ta jest droższa od prenumeraty krajowej o 50% dla zleceniodawców indywidualnych i o 100% dla zlecających instytucji i zakładów pracy.

„Niwa" — PLISSN-0546-1960. Nr indeksu 36671. Zam. 1559. Nakład 7.800 I-3.



*Андрэй Чайкоў: „Я не марыў паўтараць старых майстроў, я імкнуўся ствараць сваё."*

**КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З БЕЛАРУСІ**

# САКРЭТ СТРАДЫВАРЫ

Стварыць скрыпку з невыказнай чароўнасцю старадаўніх італьянскіх інструментаў! Кожны пачынаючы майстар марыць аб гэтым. Такая мара суправаджае яго ўсё жыццё, сцены памяшкання ўжо абвешаны дзесяткамі „ўвасабленняў", але поспеху няма.

Чаму інструменты двухсотгадовага мінулага захавалі глыбокі, пястрымны і ласкавы гук, прыгажосць лаку, дэк, грыфа? Ці ж гэта не сакрэт? Трэба прабаваць яшчэ, яшчэ...

Скрыпічны майстар Андрэй Чайкоў, 34 гады: „Аднойчы я трапіў на канцэрт і быў зачараваны дзіўным інструментам Гварнеры дэль Джэзу. Ніхто з публікі, вядома, не ведаў, што ў руках маэстра скрыпка вялікага італьянца. Але як толькі музыкант правёў смычком па струнах, залу пранзіла чыстая квінта дзівоснага тэмбру. Усё. Мая ўвага ўвесь вечар была прыкавана да скрыпкі.

Ледзь дачакаўшыся апошняй ноты, я кінуўся прабівацца праз натоўп да артыста. Той адразу зразумеў: „Бярыце, толькі, калі ласка, асцярожна".

Інструмент захаваўся выдатна, толькі дзе-недзе лак абцерся. У той вечар я ўпершыню ўбачыў „Гварнеры дэль Джэзу" ў яе самабытнай арыгінальнасці".

Але не гэтая сустрэча накрэсліла прафесіянальны лёс Андрэя Чайкова. Да думкі аб скрыпічным рамястве яго прывучылі ўжо ад дзяцінства. Убачаная на канцэрце мадэль „Гварнеры дэль Джэзу", створаная ў 1742 годзе, стала для маладога майстра эталонам прыгажосці і гучання.

Першую скрыпачку Андрэй зрабіў у шасцігадовым узросце — такі драўляны карабочак у трыццаць сантыметраў даўжыні. Седзячы вечарамі каля бацькі, глядзеў, як той рэзаў драўніну, выкрэсліваў мадэль, стругаў, тачыў, клеіў.

Аднойчы бацька ўзяў яго з сабой на возера. Напоўніўшы там вялізную эмаліраваную каструлю вадой, яны з цяжкасцю прынеслі яе на панадворак, распалілі вогнішча, і, калі вада закіпела, пачалі класці ў каструлю драўляныя дошчачкі.

Бацька эксперыментаваў, шукаў гучнае дрэва, можа, не зусім звычайна, але шмат і часам паспяхова.

Андрэй Чайкоў: „Бацьку таксама звалі Андрэй. Ён працаваў трыццаць тры гады кантрабасістам у аркестры Беларускага тэатра оперы і балету. Я практычна вучыўся майстэрству ў бацькі."

Скрыпка, зробленая з нявытрыманага дрэва, няспынна змяняе сваё гучанне, яе „мучаюць" унутраныя напружанні драўніны, усыханні ў розных напрамках у цвёрдых і мяккіх частках гадавых прыростаў.

Елка і клён, прызначаныя на выраб скрыпак, падрыхтоўваюцца спецыяльным спосабам. Якасць дрэва — гэта і ёсць крыніца тэмбравай афарбоўкі гукаў.

Андрэй Чайкоў: „Апошнюю сваю скрыпку я стварыў з карпацкай елкі і каўказскага клёну.

Чаканне першага дотыку смычка да струн вельмі хвалюючае для майстра, тым больш, калі інструмент ствараўся для ўдзелу ў Міжнародным конкурсе ў Крэмоне (Італія) — на радзіме слаўных скрыпак Страдывары і Гварнеры, дзе амаль кожны жыхар у маладосці біўся над „сакрэтам" Вялікіх Майстроў".

Скрыпка „адказала" адразу, яе вакальныя дадзеныя меццa-сапрана поўнасцю задаволілі Андрэя Чайкова — і глыбіня, і аксамітнасць гуку. У „белым" выглядае яна трапіла ў рукі вядомага савецкага віртуоза Віктара Трэцьякова. „Ведаеце, Андрэй, — сказаў

**(Працяг на стар. 5)**



*Скрыпка Андрэя Чайкова — дыпламант Міжнароднага конкурсу імя Антоніо Страдывары ў горадзе Крэмоне (Італія).*

**ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „Ніве":**

**Вальшцы ● Каб не горш... ● З захапленнем і болем ● У Боцьках ● Адзінокі кулямётчык ● Як мы птушку ратавалі ● З расказаў дзеда Раманчука ● Гародчык цёткі Мальвіны ● Весткі з Гайнаўкі, Рыбалаў, Грыгораўцаў, Даратынкі, Міхалова, Крывяціч, Орлі, Відава, Бельска, Старога Корніна ● Калі сняцца кацяняты ● Кастусёва дарога дадому ● Развучваем беларускую песню „Мой родны кут".**

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Niedziela 19 X** — 6.10 TTR Uprawa rośl. s. III. 6.40 Hod. zwierz. s. III. 7.10 Nasze spotkania. 7.30 Alarm przeciwpożar. 7.40 Now. w domu i zagrodzie. 8.10 Emerytury dla rolników. 8.20 Telewizjada. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Teleranek. W pr. m.in. „Niedźwiedź pana Adamsa". 10.20 Antena. 10.45 Tam, gdzie tańczy Mołdawianin. 11.35 Rep. film. 11.55 I liga piłki nożnej. 12.45 Dziennik. 13.05 Rolnicze rozmowy. 14.00 Tylko w niedzielę. 17.35 Przygody Sindbada. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.10 Z biegiem lat, z biegiem dni (7). 21.50 Sportowa niedziela. 22.10 Tylko w niedzielę (c.d.).

**Poniedziałek 20 X** — 13.30 TTR, RTSS — J. pol. s. I. 14.00 Chem. s. I. 15.20 NURT — Ped. 15.50 Pr. dnia. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Zwierzyniec. 16.55 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 17.20 Polskie drogi — odc. VIII. 18.50 Dobranoc. 19.00 Radzimy rolnikom. 19.10 Echa stadionów. 19.30 Dziennik. 20.10 Koncert laureatów X Konkursu Chopinowskiego. 23.10 Dziennik.

**Wtorek 21 X** — 6.00 TTR, RTSS — J. pol. s. I. 6.30 Chem. s. I. 8.10 Dla szkół: Hist. kl. VIII. 9.00 Jan Matejko. 9.55 kl. I—III Czerwone, żółte, ziel. 11.00 J. pol. kl. III lic. 13.30 TTR, RTSS — J. pol. s. III. 14.00 Fiz. s. III. 15.50 Pr. dnia. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Klub Seniora. 16.55 Interstudio. 17.20 Dom i my. 17.40 Telewizja Młodych. 18.25 Królik Bugs przedstawia. 18.50 Dobranoc. 19.00 Lekarz radzi. 19.10 Świadkowie. 19.30 Dziennik. 20.10 Hotel klasy lux — pol. film społ.-obycz. 21.45 Poglądy. 22.00 Dziennik. 22.15 Rozmówki polsko-polskie — cz. II. 22.45 Małe kino.

**Środa 22 X** — 6.00 TTR, RTSS — J. pol. s. III. 6.30 Fiz. s. III. 9.55 Dla szkół: Fiz. kl. VII. 13.30 TTR, RTSS Mat. s. I. 14.00 Wskaz. metod. s. I. 15.20 NURT — Mat. 15.50 Pr. dnia. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Michałki. 16.55 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 17.20 Los. express i małego lot. 17.30 Turystyka i wypoczynek. 17.55 Tele — gol. 18.20 Konfrontacje. 18.50 Dobranoc. 19.00 Camerata. 19.30 Dziennik. 20.10 Dziwna kobieta — radz. film obycz. 22.05 Dziennik. 22.20 Zacznijmy od Mony Lizy. 22.50 Wieczór profesorów.

**Czwartek 23 X** — 6.00 TTR, RTSS — Mat. s. I. 6.30 Wskaz. metod. 9.00 Hist. kl. VI. 12.55 Film oświat. 13.30 TTR, RTSS Mat. s. III. 14.00 Biolog. s. II. 15.20 Pr. dnia. 15.25 Turniej zastępowych. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Czwartek TDC. 17.30 Magazyn motor. 18.00 Telewizja Młodych. 18.25 Magazyn lotniczy. 18.50 Dobranoc. 19.00 Sonda. 19.30 Dziennik. 20.10 Teatr Sensacji. 21.30 Pegaz. 22.20 Dziennik. 22.35 Dramatyczne losy arrasów wawelskich.

**Piątek 24 X** — 6.00 TTR, RTSS — Mat. s. III. 6.30 Biolog. s. III. 9.55 Program dla kl. IV. 11.00 Pr. dla kl. I—II. 13.30 TTR — Uprawa rośl. s. I. 14.00 Hod. zwierz. s. I. 14.30 Red. szkol. zap. 15.20 NURT — Ped. 15.50 Pr. dnia. 15.55 Obiektyw. 16.25 Dziennik. 16.30 Piątek z Pankracym. 16.55 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 17.20 Rodzina Połanieckich odc. V. 18.40 Radzimy rolnikom. 18.50 Dobranoc. 19.00 Telewizja Młodych. 19.30 Dziennik. 20.10 Studio 2. 21.15 Teatr Tel. Istvan Orkeny — Zabawa w koty. 23.00 Dziennik. 23.15 Kabaret Dudek.

**Sobota 25 X** — 6.00 TTR — Uprawa rośl. s. I. 6.30 Hod. zwierz. s. I. 7.00 Hod. zwierz. s. III. 7.30 Mech. rol. s. III. 9.15 Pr. dnia. 9.20 Ludowe Wojsko Polskie — film dok. 10.00 Poranek z kulturą. 11.30 Klub 6 kontynentów. 12.15 Leonid Kogan — film muz. 13.15 Człowiek, ziemia, kosmos. 13.55 Orbita. 14.25 Wojna planet — Atak Chrząszczy — USA film anim. 14.50 Studio 2.

(ur)

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 17 X** — 7.15 Film fab. 17.00 Hokej. CSKA — Dynamo (Ryga)) 20.30 Koncert.

**Sobota 18 X** — 12.45 Film fab. 14.05 W świecie zwierząt. 16.05 Balet. 17.20 Spektakl. 19.45 Romanse rosyjskie.

**Niedziela 19 X** — 12.00 Film fab. 14.00 Koncert życzeń. 14.45 Kłub podróży. 15.45 Film anim. 16.00 Panorama międzynar. 16.45 Film fab. 18.15 P. nożna. CSKA — Kajrat. 19.35 Koncert. 20.25 Przegląd piłkarski.

## ГАВОРЫЦЬ БЕЛАСТОК!

**Беларуская радыёперадача: субота 12.05 — 12.25 (UKF).**

## КІНО

**Białowieża** Obcy 8 — pasażer Nostromo — ang. 21—23. Książę i żebrak — panam. 24—26.

**Bielsk Podl.** Przygoda arabska — ang. 20—21. Przygody Gerarda — ang. 22—24. Porażenie prądem — węg. 25—26.

**Czeremcha** Wzgórza Zielengory — jug. 21—22. Musisz żyć — NRD 25—26.

**Czyże** Ojciec królowej — pol. Krótki sezon — wł. 22—26.

**Gródek** Powiedz, że ją kocham — fr. 25—26.

**Hajnówka** Cygańska miłość — bułg. 20—21. Przybywa jeździec — USA 22—24. Cudowni mężczyźni z korbką — czes. 25—26.

**Michałowo** Nieme kino — USA 21—22. Szkarłatny pirat — fr. 23—24. Zwolnienie warunkowe — USA 25—26.

**Mielnik** Jabberwocky — ang. 22. Pułapka na generała — jug. 25—26.

**Milejczyce** Doktor Poenaru — rum. Rewolwer — wł. 22—26.

**Narew** Grzeszny żywot Franciszka Buły — pol. Miłość Adeli H. — fr. 22—26.

**Narewka** Dora nadaje — węg. Chłopiec z Burzy — austr. 22—26.

**Nurzec** Błękitna płetwa — austr. 21—22. Edukacja specjalna — jug. 23—24. Trzecia część nocy — pol. 25—26.

**Orla** Aż rozłączy nas śmierć — NRD. Kieszonkowe — fr. 22—26.

**Rajsk** 56 godzin na wagarach — czes. Szczególny dzień — wł. 22—26.

## БІБЛІЯГРАФІЧНЫ КУТОЧАК

**Atlas gwar wschodniosłowiańskich Białostocczyzny.** Pod red. S. Glinki, A. Obrębskiej-Jabłońskiej i J. Siatkowskiego, opracowany przez Zespół Instytutu Słowianoznawstwa PAN. Wrocław—Warszawa—Kraków—Gdańsk. Ossolineum 1980, t. I стар. 230 з 42 лінгвістычнымі картамі. Цана 95 зл.

У атласе знаходзім звесткі пра засяленне Беласточчыны, кароткае апісанне 111 вёсак з інфармацыяй пра гаворку і веравызнанне іх жыхароў, кароткім гістарычным нарысам, адміністрацыйную прыналежнасць. Мовазнаўчыя дадзеныя датычаць фанетыкі, марфалогіі і лексікі гаворак, якімі карыстаецца насельніцтва Беласточчыны.

**Zabytek archeologiczny i środowisko.** Problemy zagospodarowania obiektów archeologicznych w aglomeracjach miejskich i kompleksach leśnych. Muzeum Okręgowe w Białymstoku. Konserwator Zabytków Archeologicznych. PWN, Warszawa 1980, стар. 208, цана 70 зл.

У працы падкрэсліваецца неабходнасць цеснага супрацоўніцтва вучоных розных спецыяльнасцей па ахове і добраўпарадкаванні археалагічных аб'ектаў. Абмяркоўваюцца, між іншым, справы гарадзішчаў ранняга сярэднявечча ў гарадах Бельск Падляшскі, Бранск, Драгічын, Мельнік, Сураж, а таксама курганоў у Белавежскай пушчы.

Saniewska Halina Daniela, **O niektórych konstrukcjach składniowych w mowie potocznej Białegostoku.** — „Acta Baltico-Slavica", t. XIII, PAN. Instytut Słowianoznawstwa. Ossolineum 1980, стар. 73-84.

Адной з характэрных уласцівасцей мовы жыхароў горада Беластока і ўсходняй часткі нашага ваяводства ёсць пашыранае ўжыванне аналітычнай канструкцыі „для + Родны склон" замест агульнапольскага Давальнага склона, напрыклад: powiedzieć dla kogo, агульнапольскае — powiedzieć komu..

Wojciuk-Trancygier Zofia, **Fleksja rzeczowników ruskiej wsi Czarna Wielka pod Siemiatyczami.** — „Acta Baltico-Slavica", t. XIII, Ossolineum 1980, стар. 245-256.

У рабоце аналізуюцца флексіі назоўнікаў гаворкі жыхароў гэтай вёскі.

**Бібліяфіл**
**Р. С.**




### ЦЯЖКА БЫЦЬ СВІННЁЙ

*Я чула, чалавекам цяжка быць,*
*Гуманным, справядлівым чалавекам,*
*Затое вельмі лёгка жыць свінні.*
*Так гаварылася ў нас спрадвеку.*
*Пад намі рыць ці свінні падкладаць?*
*Яна ўсё гэта робіць без скрупулаў.*
*Ды гаварыла мне адна свіння,*
*Што гэта ўсё брахня-літаратура.*
*Мне вельмі цяжка беспрасветна*
*жыць —*
*Казала мне яна з мінай агоранай.*
*Рыць на бетоне? Па калені у гнаі? —*
*Сухія майткі гэта на дне мора!*
*Ну, а як да нас прыйдзе зіма,*
*Дык многія тады проста канаюць.*
*Ад холаду ганяць можна сабак*
*У нашай хлеўні кепска сплананай.*
*Не думалі мы пра фігуру дбаць,*
*А як з Парыжа маем мы фігуры.*
*Дык, калі ласка, просім мы да нас*
*Усіх, хто хоча, а не можа схуднуць.*
*Бо калі нам не могуць есці даць*
*(Прычыны аб'ектыўныя — бядуюць,*
*Таму, што сапсаваўся аўтамат),*
*Тады даводзіцца нам моцна худнуць.*
*А мы на гэта толькі: квік! ды квік!*
*Даўно прыйшлі да вываду такога:*
*Сучаснаю свіннёй не варта быць,*
*Бо гэта вам не за цара Гароха.*

**Цётка Мальвіна**






*Сцяг Бельскага агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча. Фота М. Хмялеўскага (здымак зроблены ў час II з'езда выпускнікоў ліцэя 22 IX 80).*




17 верасня 1980 г. Дата асаблівая ў прыгожай і слаўнай гісторыі бельскага белліцэя. У гэты дзень заслужаная школа атрымала ад бацькоўскага камітэта прыгожы падарунак — школьны сцяг. Гэтым грамадства выказала сваё прызнанне за дыдактычна-выхаваўчыя дасягненні ліцэя.

Аб гордасці за сваю школу сведчаць словы старшыні бацькоўскага камітэта Івана Суліімы, выказаныя ім у час урачыстасці: „Як жа прыемна было мне (думаю і вам таксама) слухаць па радыё і тэлебачанню, што вучань нашай школы ўзняўся на найвышэйшую ступеньку пераможцаў мінулагодняй алімпіяды ведаў аб Польшчы і сучасным свеце. І гэта ўзняўся так высока не вучань са сталічнай Варшавы, вялікай Познані ці Лодзі, а быў гэта хлопец з невялікага хутара Антанова з-пад Орлі".

Дзякуючы за сцяг, дырэктар школы мгр Аляксей Карпюк сказаў:

— Хай гэты дарагі сімвал, бела-чырвона-залацісты сцяг з серабрыстым арлом і патронам ліцэя будзе святасцю: сёння — вучням, заўтра — выпускнікам. Хай гэты сцяг вядзе наш ліцэй да новых перамог.

Ад імя вучняў падзякавала за цудоўны сцяг вучаніца IV класа Ірэна Парфенюк. Адначасова яна запэўніла, што вучні з годнасцю будуць берагчы гонар школы.

Моладзь склала прысягу на школьны сцяг і праспявала школьны гімн „Люблю наш край..." Гэтая песня была таксама матывам дасканалай мастацкай часткі, якую падрыхтавалі ліцэісты.

**Сцяпан Трафімюк**

## ЯКІЯ МЫ ЛЮДЗІ

## Маё спатканне з „прарокам"

Вяртаючыся з Беластока, быў я сведкам цікавай і смешнай справы. Вось яна. У вагон увайшоў дзядок з барадою і сумкай і прысеў каля нас, пасажыраў. Якраз адна жанчына расказвала пра хваробу свайго мужа, які быў у бальніцы і ад якога яна ехала. Вядома, бедавала, перажывала. Тут дзядок пытае яе, як муж называецца. Даведаўшыся, дастае з-за пазухі драўляны крыжык, цалуе яго, гаворыць кароценькую малітву на рускай мове, хрысціць жанчыну і кажа ёй, каб пацалавала крыжык. Калі тая пацалавала, дзядок кажа: — Твой муж цяпер здаровы і можаш яго хоць сёння выпісаць дамоў. Бо я прарок. Ісцаліў я сотні тысяч хворых. Мяне ведаюць усе лекары ў Польшчы і за граніцай.

Сказаў так упэўнена, шчыра, што сапраўды цяжка было не паверыць. І так гладка гаворыць, як нейкі прафесар. Каля мяне сядзелі жанчыны і кожная мела нейкую бяду. „Прарок" іх „ісцаліў", як і першую. Адна дала яму 100 зл., другая — 50, іншыя — 20. Па-рознаму ўзнагароджвалі „прарока". Нейкі чыгуначнік было ўмяшаўся: — Ты, дзядуля, не сей прапаганду, бо яшчэ на калегію трапіш.

Аднак дзядуля, відаць, не з баязлівых. Тут жа адрэзаў: — Ты, шмоку, сціхні, бо ты дурань у параўнанні са мною. Мяне ўсе баяцца, а я — нікога.

„Прарок" устаў і патупаў куды і цар пяшком ходзіць. Засталася яго сумка. Жанчына, што сядзела найбліжэй, заглянула ў сярэдзіну, а там бутэлька з недапітай гарэлкай. Не паспеў, бедны, усю выцадзіць.

Тут і ляснула ў мяне вера ў „прарока".

**М. Панфілюк**

**ЛЕГЕНДЫ НАШАЙ ЗЯМЛІ**

## ТРАГІЧНАЕ КАХАННЕ

Калісьці кахалася двое маладых. Бывала, дагаворацца, куды пойдуць у нядзелю. І раз дагаварыліся пайсці на могілкі, наведаць сваіх блізкіх. Як дагаварыліся, так і зрабілі. Зайшлі ды прыселі. А пасля хлопец прылёг і галаву палажыў дзяўчыне на калені. І заснуў. Яна падумала: вечар блізка, то няхай ён спіць, як сцямнее, тады пойдзем дадому. І як добрая нарачоная ды будучая жонка, асцярожна ссунула яго галаву з кален ды і сама лягла і таксама заснула.

Калі хлопец прачнуўся, было ўжо цёмна. Дзяўчына была адзета ў белую сукенку. Дык хлопец, калі зглнуў, што яны на могілках, і ўбачыў — нешта белае ляжыць, дык вельмі перапалохаўся. Як схопіцца, як пойдзе, а ў гэты час і дзяўчына схапілася ды за ім. Хацела нешта сказаць, але з перапалоху і яна толькі нешта балбатала. Ён, уцякаючы, упаў і дастаў разрыву сэрца...

**Кірылюк Міхал**

**Ад рэдакцыі.** Сярод нашага народу, на нашай зямлі водзіцца шмат цікавых і багатых легендаў. Хочам усе іх запісаць. Зрабіць гэта можам толькі пры вашай дапамозе, дарагія карэспандэнты і чытачы. Будзем публікаваць іх у гэтым месцы.



### ЮБІЛЕЙНАЯ ВЫСТАЎКА ПЯТРА СЕРГІЕВІЧА

80 год споўнілася сёлета выдатнаму беларускаму мастаку Пятру Сергіевічу. З гэтай нагоды ў мастацкім музеі Літоўскай ССР у Вільнюсе экспанавалася выстаўка твораў юбіляра. На яе адкрыццё, якое адбылося 21 жніўня (гл. здымак), прыбылі прадстаўнікі Саюза мастакоў з Беларусі, у тым ліку Кулік, Купава, Марачкін і Раманюк, літоўскія калегі, блізкія і знаёмыя мастака. (тур)

фота Лявона Луцкевіча.

### З НАРОДНАЙ АБРАДНАСЦІ. РАСЛІННАСЦЬ.




И сказал Бог: да произрастит земля зелень, траву сеющую семя, дерево плодовитое, произносящее по роду своему плод, в котором семя его на земле. И так стало.

(Первая книга Моисеева, Бытие, Глава I; II)

Як кінем вокам — усюды жыццё. Выпяўшы грудзі, быццам на парадзе, стройна стаяць у зялёных шапках дрэвы. Там зноў, збіўшыся ў купіны, перашэптваюцца з ветрам кустарнікі. А луг, што цягнецца за хвалюючай калоссем нівай, стракоча жывой вясёлкай. Уваходзім у казачны свет батанічнага саду. Навокал спявае колерамі жыццё. Стаіш і адчуваеш сябе маленькай істоткай, узгадаванай на гэтых градках, маленькай, але злоснай і бязлітаснай, як выроднае дзіцё.

Дрэвы ў жыцці чалавека з давен-даўна мелі велізарнае значэнне. Калі яшчэ таямніцай былі для яго розныя з'явы прыроды, калі прычын дзівосных здарэнняў, наводзячых на яго страх, дашукоўваўся ў звышнатуральных сілах, часта звяртаўся ён да дрэў як да багоў і часта забяспечваўся перад імі рознымі магічнымі ўздзеяннямі, як перад логавам злых моцаў. Доказам гэтага з'яўляюцца дрэвы небывалай формы — павыкручваныя, сучастыя, тоўстыя, высачэзныя. Найчасцей гэта былі дубы і ліпы. І іх ён лічыў месцам прабывання звышнатуральных сіл.

Некалі бытавала перакананне, водгукі якога засталіся ў песнях (любоўных, салдацкіх) ды легендах, а таксама рэшткі — ва ўспамінах людзей, што дрэва — гэта душа памершага. Пасля смерці цела раскладаецца ў магіле, а душа вырастае дрэвам або кустом. Перш за ўсё гэта каліна, якая паяўляецца на магіле памершай у выніку нешчаслівага кахання маладой дзяўчыны. На магіле хлопца найчасцей вырастае дубок. Паяўляецца таксама таполя.

У залежнасці ад характару памершага, ад яго зямных учынкаў на магіле вырастае адпаведны па чысціні гатунак дрэва або іншай расліны. Гэта свайго роду апраўданне народнай беларускай пагаворкі: „Грахі вялікага грэшніка асотам з магілы вырастаюць".

Узрастанне душы дрэвам знайшло адлюстраванне, як мы ўжо адзначалі, у шматлікіх казках, песнях ды легендах. І таму нельга некаторых дрэў ссякаць ды калечыць. „Ты глянь на вуольху, — гаворыць інфарматарка з ваколіц Нарвы. — Побач як чырвонізе, як надрубаеш, або пэрэрыэжэш. То кроў так тэчэ". У падтрымку гэтага і наступнае, пачутае ў ваколіцах Мілейчыц: „Як будэш сам в лісі і будэ так тыхо-тыхо, шчо нэ вытёрок нэ повіе, то стань і послухай. Знаеш, шчо ныкого нэма, а здаецце голосы чуеш. То дэрэва говорат". Акалечванне ці ссяканне дрэў адбівалася хваробамі на віноўніку.

Часта чалавек дашукоўваўся падабенства некаторых рыс паміж дрэвамі і сабой, асабліва, калі гутарка ідзе пра хваробы — па аналогіі прызнакаў, паводзін ці выгляду. Прыкладна, асіна сімвалізуе ліхарадку, нараслі на ствале — балячкі і скулы, патрэсканасць кары — лішаі, спарахнеласць — рабакі і гэтак далей.

Былі і такія дрэвы, якіх чалавеку наогул нельга было чапаць. Светапогляд і веракананне, выпрацаваныя гадамі, забаранялі ссякаць дрэвы, што растуць паблізу хаты і гаспадарчых будынкаў. З'яўляюцца яны вернымі сторажамі сялібы і наношванне ім крыўды было вялікім грэхам. Не чапалі і па сённяшні дзень не чапаюць дрэў з

**(Працяг на стар. 4)**

(Працяг са стар. 1)

# СУСТРЭЧА

— Чаму вы пішаце па-беларуску? — хіхікаючы, запытаў адзін падлётак, а другі, схаваўшыся за яго плячыма, хуценька дакінуў:

— То ж мы жывем у Польшчы і беларуская мова да нічога нам непатрэбная. Толькі ў вёсцы гавораць папросту. А ўжо ў гміне і ў краме нават, і ў школе на ўроках і ў час перапынкаў — усюды па-польску. А вы тут нам аб прыгажосці роднай мовы...

Так загаварвалі нашага госця-паэта дамарослыя бязвусыя філосафы. Спадзяваліся, што выйдзе з гэтага нейкая камедыя, што можна будзе пасмяяцца. Атрымалася аднак інакш. Паэт апусціў галаву і доўгую хвіліну маўчаў. Праз залу пракаціліся шэпты.

— Што з ім? Можа яму што пашкодзіла?

— Хіба замоцна мы яго ўгасцілі на пачатку. Трэба было пачакаць заканчэння сустрэчы...

А паэт яшчэ маўчаў. Урэшце падняў сваю лысаватую галаву, зняў акуляры і павёў змучаным позіркам па прысутных. І тады пачаў гаварыць. Спярша ціха, а пазней усё галасней і болей бадзёра.

— Пішу я па-беларуску, бо я беларус, так, я — беларус!

— Мы жывем у Польшчы, а не ў Беларусі! — адказаў яму хтосьці з залы.

— Гэта розныя справы, — гаварыў паэт. — Адно другому не перашкаджае. Мы — грамадзяне Польскай Народнай Рэспублікі. Але я і вы — беларусы! Дзеці гэтай зямлі!

Праўду кажа гэты разумны і, відаць, вучоны чалавек.

— Хто ў вашай вёсцы найстарэйшы? — нечакана запытаў паэт.

— Дзед Гаўрыла! Кацюба! — пасыпалася з залы.

— Чаго прычапіліся! — абурыўся барадаты дзядуля.

— У бежанцах вы былі? — звярнуўся да яго паэт.

— Ну, а як жа. То ж усе з нашай вёскі перад немцам уцякалі.

— А чаму вярнуліся? Ці вам там дрэнна жылося? — запытаў паэт.

— Чаму? — у голасе дзядулі праяўлялася наіўнае здзіўленне, што хтосьці можа пытаць пра такую простую справу. Ён аж падняўся з крэсла і тады адказаў:

— Вярнуліся да свайго, да роднага, бо тут мы нарадзіліся, тут жылі нашы дзяды і прадзеды.

— А як гаварылі яны? — пацікавіўся паэт.

— Як то — як? — зноў не мог зразумець дзед, пра што яго пытаюць. — Вядома, як — па-свойму, папросту. Так было ў нас ад пачатку свету.

Яшчэ доўга працягвалася гэтая гутарка пра нашую мову, пра нашае месца ў нашай дзяржаве. Я быў згодны з паэтам, што незалежна ад таго, дзе лёс вызначыў нам сваё месца, уласнай мовай, мовай бацькоў, трэба даражыць. Хто сам сябе не цэніць, хай не спадзяецца ад другіх, што яны будуць яго паважаць.

А што вы аб гэтым мяркуеце?

**Дзядзька Максім**



**У фотааб'ектыве.** Крывяцічы. Фота М. Шаховіча.

(Працяг са стар. 3)




буслiным гняздом, незалежна ад таго, ці яно пустуе, ці водзяцца ў ім птушкі. Адгэтуль і прыказка — „Не б'е гром туды, дзе водзяцца буслы". Пад аховай народнага веравання былі дрэвы з амялой ці губаўкай, якія лічыліся свайго роду знакамі божаскімі або дэманічнымі сіламі.

Апрача гэтага, былі і такія дрэвы, якія можна было ссякаць, але нельга было выкарыстоўваць у гаспадарчых патрэбах. Гэта дрэва, у якое ўдарыў пярун. Лічылася яно нячыстым, бо гром б'е туды, дзе скрываецца чорт (успаміналася пры навальніцы). Абсалютна нельга было выкарыстоўваць пад пабудову жылых будынкаў скрыпучага дрэва, таму што цэлы час будзе ў хаце „пішчэць бяда", і таго дрэва, якое некалі прыціснула або забіла чалавека.

Паводле верапераканання людзей, сярод дрэў на першым месцы стаялі дрэвы чыстыя, якія людзі акружалі культам святасці. На першым месцы стаяць ліпа і дуб. Нават па сённяшні час некаторыя з людзей лічаць іх святымі. Паводле іх, былі яны месцам, дзе найчасцей паказваліся святыя постаці. Ліпу лічылі нават месцам прабывання Божай Маці. З вялікай пашанай адносіліся таксама да каліны. Згодна з народным вераваннем, у каліну ніколі не біў гром, што заадно залічвала яе да дрэў чыстых, дзе ніколі не пасялялася злая сіла. Пад калінай нават у найбольшую буру можна было хавацца ад дажджу. Ягады калін клалі нават у стагі ды стадолы, забяспечваючы іх такім чынам ад перуна. Зрэшты, народ шанаваў усе дрэвы, плады якіх ядуць цяпер, або елі некалі.

Некаторыя з дрэў увяла ў народнае шанаванне хрысціянская рэлігія, прыкладна, елка. Акружылі яе культам святасці за тое, што схавала яна пад сваімі галінамі малога Хрыста, які ўцякаў з Божай Маці і святым Язэпам ад цара Ірада. І таму на кожныя Каляды гэтае дрэўца паяўляецца, а прынамсі павінна паяўляцца ў кожнай хаце.

Дзіўным дрэвам у народным вераванні з'яўляецца асіна. Раз яна твор чорта і месца прабывання злой сілы, другі раз лічаць яе выклятай Богам за тое, што дазволіла, калі ўсе іншыя дрэвы адкінулі, каб павесіўся на ёй Юда, і таму ўвесь час дрыжыць, то знаходзіцца яна на паслугах усіх ведзьмароў, а наступным разам робяць з яе прылады, якімі бароняцца ад гэтых жа ведзьмароў і напалавіну дэманічных сіл. Адным словам, мае яна ўласцівасці і адмоўныя і апатрапсічныя.

Немалы ўплыў дрэў быў таксама на лячэнне некаторых хвароб, асабліва на боль зубоў, з якім часта звярталіся да дуба (асабліва ў замовах), а больш за ўсё да рабіны. Ішлі да яе, укленчвалі і прысягалі ёй ніколі ў жыцці не ламаць яе галінак, абы толькі суняла боль зубоў. Лячылі таксама і перапалох. Лячылі яго пры дапамозе так званага акаджвання, аб чым упаміналася пры апісванні форм народнага лячэння. Вось у склад вянкоў, якія вілі на Зэленэць ды свянцілі ў царкве, якімі потым акаджвалі, уваходзіла і лісце дрэў, а перш за ўсё клёну. Зрэшты, лісце клёну, а часткова і дуба мелі апатрапсічныя сілы. Гэта выплывае са звязанасці іх формы з магічнымі знакамі пяцівугольнай зоркі, нарысаванай без адрывання рукі, або шасцівугольнай, складзенай з трохвугольнікаў. Гэтыя знакі былі свайго роду сторажамі перад нячыстай сілай.

Калі свайго часу будзем разглядаць каляндарную абраднасць, заўважым, што ёсць вялікая звязанасць дрэў з пасобнымі святамі. Дрэвы з'яўляюцца цэнтральным элементам, вакол якога і адбываецца ўвесь святочны рытуал. Так, прыкладна, на Тройцу, інакш Клечане (13.06) ці Вербніцу, якая заўсёды бывае тыдзень перад Вялікаднем.

**Міхась Шаховіч**

(Працяг са стар. 1)

# II пленум ГП БГКТ

ўсіх галінах народнага жыцця, калі гаворыцца аб паглыбленні сацыялістычнай дэмакратыі, аб панаванні аўтэнтычнасці ў грамадска-палітычных справах, аб шырокім прадстаўніцтве шырокіх мас ва ўладах і арганізацыях, дык яно не павінна абмінаць і беларускае насельніцтва.

Дзеля апрацавання пастулатаў у гэтым напрамку пленум стварыў адпаведную камісію.

У дыскусіі выступілі: Васіль Антыпюк, Янка Зенюк, Аляксандр Баршчэўскі, Уладзімір Навіцкі, Аляксандр Іванюк, Юры Туронак, Віктар Швед, Хведар Садоўскі, Ніна Якубоўская і Віктар Рудчык.

Пленум ГП на гэтым сваім пасяджэнні прыняў таксама план далейшай дзейнасці для выканання пастаноў IX з'езда БГКТ. Спрыяць гэтаму павінны секцыі ГП БГКТ. Пленум стварыў 6 такіх секцый.

Пастаноўлена, што секцыю культуры будзе ўзначальваць сакратар ГП БГКТ Янка Зенюк, секцыю асветы — член Прэзідыума ГП БГКТ Аляксандр Іванюк, навуковую секцыю — член ГП БГКТ Юры Туронак. Літаратурную і выдавецкую секцыі даверана ўзначальваць намесніку старшыні ГП БГКТ, галоўнаму рэдактару „Нівы" Георгію Валкавыцкаму, а лектарскую секцыю — члену Прэзідыума ГП БГКТ Вінцуку Склубоўскаму.

Вёў пленум старшыня ГП БГКТ Мікалай Самоцік.

**Міхась Хмялеўскі**

# КОЛЬКІ „НІВЫ"

**Дубінская** пошта абслугоўвае 13 вёсак і пасёлкаў і жыхары іх маюць 98—100 падпісак на „Ніву". Найбольш яе разносіць пісьманосец Анна Грэчан у вёсцы Дубіны. Па колькасці падпісак на газеты і часопісы мы на першым месцы. Чытаюць нас таксама ў Бельшчыне, Навасадах, Катоўцы, Ліпінах, Пасталове, Савіным Грудзе, Скрыплеве, Сарочай Ножцы, Смаляным Садку і Пераходах.

Пошта ў **Мілейчыцах** абслугоўвае 12 вёсак. „Нівы" ўсяго 5 падпісак і яна разыходзіцца ў саміх Мілейчыцах.

Дванаццаць вёсак абслугоўвае пошта у **Гарадку.** Жыхары іх маюць 123 падпіскі на „Ніву". Найбольш нас чытаюць у Меляшках і Бялевічах, у якія возіць яе пісьманосец Мікалай Казёл, і ў Гарадку, тут яе разносіць лістаношка Лідзія Карчэўская.

Сярод іншых газет і часопісаў у Гарадоцкай акрузе многа падпісак маюць: „Гадоўля быдла" — 233 падпіскі, „Газета вспулчэсна" — 223, „Пшыяцюлка" — 110, „Гаспадыня" — 49 і „Грамада-Рольнік Польскі" — 36. Мы на трэцім месцы. (яц)

ЗАПІСКІ НАТУРАЛІСТА




Восенню, калі на дрэвах лісце пачынае жаўцець, — прыкмета канца вегетацыі раслін. Жывёльны свет перыяду спакою характарызуецца тым, што шматлікія земнаводныя і рэптыліі ўпадаюць у стан анабіёзу. У гэтым становішчы да максімума затрымліваюцца працэсы жыццедзейнасці арганізма. Да такіх адносяцца: жабы, яшчаркі, змеі, вужакі. Іх арганізм можа замерзнуць цалкам. Гэтакая прырода іх быцця, і яна ахоўвае іх жыццё. Тэмпература іх цела залежыць ад наваколля. Летаргічны стан характэрны для млекакормячых. Летаргічны сон у норах звяроў можа быць нармальным — суслікі, барсукі, суркі, мядзведзі; або паталагічным, прычынай якога можа быць нейкая хвароба. Гэта здараецца і з чалавекам. Можа ён спаць ды амаль што не выяўляць ніякіх жыццёвых функцый. Таму бывалі памылкі. Хавалі летаргічна спячага чалавека. У зямлі ён прачынаўся і, вядома, душыўся ў дамавіне.

Іхніты — экалагічнае прыстанішча арганізмаў, маюць вялікае значэнне ў ахове шматлікіх відаў раслін і жывёл. Іхніты — жыццёва важныя пустоты на зямлі, незалежна ад іх генезісу — геалагічныя, створаныя неадушаўлёнымі сіламі прыроды: або біялагічныя, створаныя, адушаўлёнымі істотамі.

На час анабіёзнага становішча земнаводныя і рэптыліі хаваюцца, каб прачнуцца вясной. Вялікай загадкай застаецца выміранне гіганцкіх рэптылій мінулых біялагічных эпох — дыназаўраў. Яны не мелі магчымасці будаваць ды карыстацца з іхнітаў у час зімовага спакою. Гіганцкія памеры цела былі галоўнай перашкодай гэтаму. І калі паявіліся цеплакроўныя грызуны, яны маглі соннага яшчара настолькі пакалечыць за зіму, што далей ён не мог жыць.

Часта лічыцца, што прычынай змяншэння колькасці рыбы ў рэках з'яўляецца хімізацыя сельскай гаспадаркі. Гэтага факту нельга адкідаць, ды ён не можа быць галоўнай прычынай. З маіх назіранняў натураліста відаць, што яшчэ задоўга да інтэнсіўнага мінеральнага ўгнаення ды хімічнага змагання з пустазеллем, колькасць рыбы ў рэках рэзка паменшылася. Меліярацыя рэк знішчыла прыродныя іхніты. А калі няма пустотаў, надзейных сховішчаў, дык і біялагічны свет моцна церпіць. У тутэйшых грунтах важнымі былі міжкарэнныя іхніты. На жаль, дрэвы ды хмызнякі на берагах рэк бязлітасна вынішчаюцца. Камневыя іхніты на дне рэчак, вельмі надзейныя і трывалыя, сустракаюцца рэдка. У іхнітах рыба адпачывае, кладзе ікру, абараняецца ад непрыяцеляў. Ліняны рак без іхнітаў становіцца лёгкай здабычай драпежнікаў. Яго цела нічым не ахована. Ва ўзбярэжных частках ракі трэба стварыць камневыя іхніты і захаваць дрэвы, хмызнякі. Гэта і ёсць правільная дарога да аховы гідрафауны. Да гэтага неабходна дадаць, што міжкамневыя іхніты зімой зашчамляюць паветра, што супрацьдзейнічае ўдушэнню рыбы і іншай жывёлы.



**БУГ У АГНІ**




Калі Ёзік Гаўрылюк спешна вяртаўся са Слохаў Аннапольскіх на свой хутар, каб ратаваць бацькоў ад помсты гітлераўцаў, па іншых Слохаўскіх і Крупіцкіх хутарах таксама ўжо распаўзліся салдаты вермахта.

Дамы стаяць тут рэдка, часам у кіламетры і больш сусед жыве ад суседа. Між імі бярозавыя і сасновыя пералескі, карчы ляшчыны і альшыны, лазнякі і палі, засеценыя збожжам, ды сенажаць, упрыгожаная спелай травой і шматкаляровым багаццем кветак.

Для салдат гэта спрыяльнае сховішча. І сюды гітлераўскае камандаванне накіравала свае войскі. Перш за ўсё атакавалі яны даўнейшую маёмасць крупіцкага памешчыка, дзе памяшчаўся штаб **16 асобага кулямётнага батальёна.**

Камандзірам узвода сувязі пры гэтым штабе быў **лейтэнант Шандараў Іларыён Грыгор'евіч,** які ў Чырвонай Арміі служыў ад 1931 года.

*„У 1940 годзе наш 16 асобы кулямётны батальён, — успамінае ён, — быў накіраваны ў Брэсцкі ўмацаваны раён і абсталяваўся ў маёнтку Крупіцы тадышняга Сямяціцкага раёна (зараз Сямяціцкая гміна). Цэлы камандны састаў,* — піша далей І. Шандараў, — *размяшчаўся па прыватных кватэрах вёскі Крупіцы. Я разам з жонкай і траіма дзяцьмі займаў кватэру ў селяніна, якога называлі Пайка. Ці гэта сапраўднае прозвішча, ці толькі вясковая клічка, я не змагу зараз прыгадаць. Дом гаспадара быў мураваны. Перад самай вайной яго прызвалі ў Чырвоную Армію на часовае абучэнне і ён дамоў ужо не вярнуўся.*

*Недалёка ад нас жылі тут: начальнік гаспадарчага батальёна — лейтэнант* **Аўчыннікаў** *са сваёй сям'ёй, начальнік абозна-рэчавай маёмасці, тэхнік-інтэндэнт* **Новікаў,** *медыцынскі працаўнік, інтэндэнт 2-га ранга, фельчар* **Стэцэнка,** *начальнік штаба —* **Ніжэвіч** *і камандзір батальёна — капітан* **Назараў Анатолій Васільевіч.**

*Камандзіры кулямётных рот жылі са сваімі баявымі разлікамі ў казармах, размешчаных уздоўж граніц. Між імі і штабам утрымоўвалася пастаянная тэлефонная сувязь.*

*Ротамі камандавалі: лейтэнант* **Сакалоў,** *лейтэнант* **Ігнатаў,** *лейтэнант* **Лётка** *і лейтэнант* **Змейкін...“.**

**Іван Іванавіч Змейкін,** які зараз жыве ў горадзе **Дзяржынску,** Горкаўскай вобласці, камандаваў **2-ой ротай,** якая займала доты ў раёне вёскі **Мінчэва.**

*„Калі толькі пачалася бамбёжка, калі загрукацелі гарматы, —* успамінае ён, — *я адразу кінуўся на свой камандны пункт. Дабрацца да яго не было лёгка. Амаль на кожным кроку разрываліся снарады. Па дарозе мяне кантузіла і параніла. Я ледзь змог дапаўзці да каменданцкага дота. Камандзіры ўжо былі тут і я загадаў ім: займаць доты і, нягледзячы на затраты, спыніць ворага. Цераз 20 мінут нашы чатыры доты і тры ўкапаныя ў зямлю танкі былі гатовы адкрыць агонь. Усе яны прынялі актыўны ўдзел у абароне граніцы...“*

На гэтай жа граніцы праліў сваю кроў таксама і Іларыён Шандараў. Два тыдні не было яго ў Крупіцах, не бачыўся ані з жонкай, ані з дзецьмі. Па загаду камандзіра батальёна, А. В. Назарава, паехаў ён у Высокае, дзе тады перабіраўся з Брэста штаб 62-га Брэсцкага ўмацаванага раёна, каб дапамагчы ў наладжванні сувязі з ваеннымі часцямі, шырока раскінутымі ўздоўж берагоў Буга.

У суботу, 21 чэрвеня, камбат Назараў адклікаў яго назад у Крупіцы. У пяць гадзін пасля абеду лейтэнант Шандараў заявіў капітану Назараву аб сваім вяртанні. Камандзір аднак нічога асабліва важнага яму не выявіў.

— Да нас прыбывае папаўненне, — сказаў толькі і параіў Шандараву ісці адпачываць ды яшчэ дабавіў, што на службовыя справы будзе ў іх час у панядзелак, а калі што неадкладнае здарыцца, дык перад імі выхадны дзень — нядзеля.

Ён быў зусім спакойны. Значыць, не ведаў і не прадчуваў, што не дажыве да заўтрашняга вечара.

Папаўненне сапраўды прыбывала. Былі гэта маладзенькія, свежыя выпускнікі курсаў малодшых лейтэнантаў. Папярэдняга дня, у пятніцу, прыехалі яны на станцыю ў Сямяцічы і, паколькі цягнік ужо далей не ішоў, пехатой ішлі на месца прызначэння. Гэта ў асноўным з іх, з новапрыбыўшых лейтэнантаў, добраахвотна склаў-

**(Працяг на стар. 6)**

**З РАСКАЗАЎ ДЗЕДА РАМАНЧУКА**

## СЕНАКОСЫ

Цупрыкі прыдзелены да Скупава. І знаходзяцца на рэчцы Нараўцы. Пачынаюцца недалёка ад Белавежы, у бок Нараўкі, пасярэдзіне Белавежскай пушчы. Цупрыкі ад Скупава 15 км. Цудоўны маляўнічы краявід Цупрыкаў бывае вясною, калі расцвітае прырода. Шырока і доўга цягнецца, як глянуць, паласа лонак сярод лесу. А па зялёным моры травы сваёй бліскучай вадою спяшае-бяжыць рэчка Нараўка (капанка). У старых затоках — зараслі з высокім чаротам, кіюхамі і белымі вадзянымі ліліямі. Па лонках дзе-недзе тырчаць высокія тычкі стагоў, абарогі на чатырох стаўбах з саламяным дашком і шопкі на сена. На мокрых месцах расце альшына, па берагах рэчкі зялёныя карчы, а на грудку — адзінокія дубы. На адным, абгарэлым, буслы зрабілі сабе гняздо-бусляніцу. Лонка гэта і называецца Дубовы Грудок, а там далей — Задняя.

У пачатку чэрвеня ў Цупрыках пачынаецца сенакос. Людзі збіраюцца туды на адзін-два тыдні. Набіраюць з сабою хлеба, бульбы, акрасы, бяруць гаршкі для гатавання стравы. Кашэнне травы распачынаецца праверкаю граніц сваёй палоскі па старых палях, забітых у зямлю, і пратаптаннем сцежкі ў траве. Касіць пачынаюць з расою, да ўсходу сонца. Цупрыкі ажываюць. Касары ў белых сарочках, як жывыя кветкі пасярод зялёнай травы. А жанчыны ў рознакаляровых уборах, з граблямі ў руках хуценька разбіваюць пакосы. Касары шумліва косяць траву-разуху. Становяцца толькі, каб павастрыць касу асёлкай, або дошчачкай-„мэцэнькаю“, мокраю, пасыпанаю пяском.

Сонца паднімаецца, прыпякае і сушыць скошанае. Касары ўглядаюцца, што з расою многа ўжо скошана, і ідуць на снеданне, падсілкавацца. Аднак на снеданне шкада шмат часу марнаваць. Касьба — прыемная праца і проста цягне да работы. Касар вострыць касу, ідзе далей касіць. Гарачая праца прадаўжаецца да поўдня. У поўдзень сонца так неміласерна пячэ, што цяжка вытрымаць. Касары паўтамляюцца, хочуць піць і есці. Пакідаюць работу і спяшаюцца схавацца ў цянёк. Абедаюць. Па звычаю паложана гадзіна на адпачынак. Але дзе ж там! Ноччу будзе адпачынак! Вострадь косы, ідуць касіць. Перахіляецца на захад сонца. Разводзяць агонь, скрабуць бульбу і прыстаўляюць гаршкі да агню. Соляць, кідаюць у гаршчок сала. Надта смачна бульба з салам! А хто мае малако, тварог, масла, дык таксама добра з бульбай.

Павячэраўшы касары кляпаюць косы. Камары не даюць спакою. Пара і на бакавую. Заўтра ранenька з птушкамі ўставаць трэба да касьбы, як то кажуць: „Касі, каса, пакуль раса, раса далой і мы дамой“.

**У. Г.**

Помнікі культуры. *Фрагмент уніяцкага алтара-кіёта з 1730 г. у чыжоўскай царкве.* *Фота М. Гайдука.*

## У час з'езда абсальвентаў

Як ведаем, 20 і 21 верасня ў Беларускім ліцэі ў Бельску адбыўся з'езд абсальвентаў. З гэтай нагоды 21 верасня ў Бельскім доме культуры прайшла ўрачыстая частка. У ёй прыняў удзел бельскі беларускі хор „Васілёчкі“. Зала была перапоўнена людзьмі. Усім вельмі спадабаліся песні ў выкананні нашага хору — песні на беларускай мове.

На маю думку, варта, каб ГП БГКТ выдала грамплацінку з беларускімі песнямі ў выкананні хораў „Васілёчкі“, **„Дубочкі“, „Каласкі“** і жанчын з Гарадка. У гэтым годзе Украінскае таварыства выдала грампласцінку з песнямі хору „Жураўлі“.

**Іван Кірызюк**

**(Працяг са стар. 2)**

## САКРЭТ СТРАДЫВАРЫ

той Чайкову, — вы не пакрывайце яе лакам — шкада, калі раптам знікне такі цудоўны голас!“

Паўсур'ёзнае пажаданне мела сэнс: вядома нямала выпадкаў, калі інструмент пад лакам пераставаў гучаць. Але без покрыва яму таксама не жыць: лак патрэбны для захавання дрэва.

Чайкоў знайшоў і патрэбны грунт, і лак. Скрыпка апранулася ў бліскучае ўбранне. І вось яна выйшла ў свет. Цудоўныя дадзеныя: моцны грудны голас! Вось гэта ўдача! Магчыма, Чайкову ўдалося ўсё ж адкрыць „сакрэт Страдывары“?

Андрэй Чайкоў: „Ніколі я не марыў паўтарыць старадаўніх майстроў — гэта немагчыма па розных прычынах. дрэва — яго апрацоўка і тэрміны вытрымкі, лак — гэта кактэйль з дзесяткаў кампанентаў, клей, грунтоўка... Не, я імкнуўся стварыць сваё, вывучыўшы лепшае з вопыту вялікіх. А за падставу ўзяў мадэль Гварнеры дэль Джэзу.“

І вось упершыню ў гісторыі беларускі майстар выстаўляе свой інструмент на міжнародны конкурс у Крэмоне (1979 г.). Андрэй Чайкоў неймаверна шчаслівы і горды за сябе, за нацыянальную культуру, таму што мінулыя стагоддзі не ведалі скрыпак, створаных на Белай Русі, ніхто з прафесіяналаў-музыкантаў не граў на іх. А наш народ жа ж заўсёды цягнуўся да скрыпкі, ніводнае вяселле без яе не абыходзіцца: у трыо з цымбаламі і бубнам гучыць чатырохструнка — радуе, весяліць, прытанцоўвае. Асабліва скрыпка часта сустракаецца на Палессі, у Гомельскай і Мінскай вобласцях. Усе яны створаны народнымі ўмельцамі.

Цяга беларусаў да скрыпічнай вытворчасці стала адной з прычын стварэння ў Мінску Дзяржаўнай калекцыі інструментаў розных школ і эпох. Яна дапамагае ўмельцам знайсці правільнае рашэнне ў выбары дрэва, лаку, канструкцыі.

Тут шмат добрых альтаў, віяланчэляў, кантрабасаў і, вядома, скрыпак. Есць Гальяна, Паола Маджыні. Заплаціўшы прыватным асобам, дзяржава неадплатна аддае інструменты ў карыстанне таленавітым музыкантам. Гэта, здаецца, галоўная асаблівасць гэтай калекцыі.“

Апавяданне аб Андрэю Чайкове можна закончыць такой храналогіяй: 1974 год — удзел ва ўсесаюзным конкурсе скрыпічных майстроў, 1977 год — Міжнародны конкурс у Познані, 1980 год і далей — узыход да новых вышынь.

**Юрый Паноў**
**Фота Э. Трыгубовіча**

Шматлікія іхніты маюць вялікае значэнне ў раслінаводстве. Зімой зніжаецца тэмпература і расліны могуць вымерзнуць. Восенню, пры пасеве рапсу, трэба добра падумаць над азотнымі і хімічнымі ўгнаеннямі. Калі глеба была ўгноена натуральнымі ўгнаеннямі, ад дамашняй жывёлы, тады азотных мінеральных рэчываў лепш на зіму не даваць. Справа ў тым, што азот узбуджае моцны рост вегетацыйных частак. Расліна накаплівае шмат вады, якая замярзае ды пашкоджвае яе ткані. Расліна такая немінуча гіне, вымярзае.

Камневыя іхніты затрымліваюць снежнае пакрывала, якое часта здзьмухваецца ветрам. Поле камяністае захоўвае рапс ад вымярзання. Назіраў я такі выпадак. Адзін чалавек жыў у горадзе, а каля Праневіч сеяў рапс. Усё было добра, прыязджаў ды машынамі збіраў ураджай. Ды аднойчы ён пасадзіў на гэтым полі бульбу. Пусціў трактарную капалку, якая выкінула клубні бульбы ды каменне. Наняў рабочых ды загадаў, каб усе каменні пазбіралі ў кучы. „Няхай больш не перашкаджаюць у апрацоўцы зямлі“. У наступныя гады рапс у яго прапаў больш чым напалавіну. Чалавек здзівіўся, можа нехта злым вокам паглядзеў... Ды я яму растлумачыў аб камневых іхнітах ды іх ахоўнай ролі не толькі ад марозу. Пад каменьчыкамі праходзіць паветра, пад імі хаваюцца карысныя насякомыя. Для іх не было такім небяспечным апырскванне гербыцыдамі, як забранне каменняў. Ды было ўжо позна, каменні чалавек аддаў дарожнаму прадпрыемству, а поле, па выражэнню дзядзькі Кваса, засталося „голае, як кол“.

Трэба адзначыць, што ўгнаенне рапсу выконваецца перад наступленнем марозу, позняй восенню. Пабольшанне канцэнтрацыі каліевых ды фосфарных солей у глебе робіць яе ўстойлівай ад прамярзання зімой, ды ахоўвае ад шкодных замаразкаў вясной.

Перыяд асенне-зімовага спакою паўднёвай часткі Беласточчыны 1979/80 г. г. характарызаваўся працяглай восенню. Яшчэ ў першай дэкадзе снежня выганялі жывёлу на вельмі ўжо дрэнныя пашы. Выпас закончаны быў 11 снежня 1979 года. Зімовы шыфр аграметэаралогіі пачаў дзейнічаць 20 снежня. І вось выявілася, што мароз стукнуў па слаба прыкрытых снегам азімых. Гэта вельмі некарысна адбілася на пасевах рапсу. Там, дзе поле на вышыні і дзе няма камневых іхнітаў, рапс вымерз. Маласнежнае покрыва назіралася ў студзені ды лютым 1980 г., а сакавік меў тэмпературу да —18°. Усё гэта стварыла ўмовы да вымярзання азімых раслін.

**Інж. Б. Ф. Рудкоўскін**
Малюнак аўтара

## ДВА РОЗНЫЯ ПРЫКЛАДЫ

15 гадоў назад яшчэ грамадская рада нарадовая ў Ласінцы пад старшынствам Сямёна Паўлоўскага першай у павеце прыступіла да пабудовы пачакальняў ПКС у Ласінцы і Кутавой. Пачакальні былі зроблены з белай цэглы, крытыя этэрнітам.

Давялося мне вось ехаць той дарогай і што я ўбачыў? Пачакальня ў Ласінцы знішчана, дах пабіты, сцены парасцягваны, няма дзе схавацца ад ветру і дажджу. Падумаў я, што бадай усе прыпынкі ПКС будуць так знішчаны, прайшло ж больш як 15 гадоў. І што аказваецца? Даязджаем да прыпынка ПКС Кутавая, там стаіць пачакальня ПКС. Сястра ласінкаўскай — той самы ўзор, у тым самым годзе была пабудавана. Але зусім не так выглядае, як у Ласінцы. Праўда, трошкі прыцямнела цэгла, але пачакальня ўся цэлая — ёсць дах і сцены і яшчэ будзе служыць навакольным пасажырам найменш дзесяць гадоў. Здаецца, што жыхары Ласінкі павінны і сваю пачакальню давесці да належнага парадку. Каму як каму, але ім яна патрэбна ў першую чаргу.

**Э. Вайсковіч**

